РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ

# Культура

Кошт 50 рублёў

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА №9 (118). 2 САКАВІКА 1994 ГОДА.

СЁННЯ:



**У гісторыі няма лішніх фактаў**

Стар. 5 - 6.

*25 лютага, у першы дзень яўрэйскага свята Пурым, калі прынята рабіць падарункі, Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Дзяржавы Ізраіль у Рэспубліцы Беларусь пан Эліягу ВАЛК уручыў дырэктару Скарынаўскага цэнтра Адаму МАЛЬДЗІСУ пераклад адной з кніг Біблії, зроблены ў XVI стагоддзі. На думку спецыялістаў, яўрэі, што пераклалі некалі ў Вільні гэты тэкст проста з арыгінала, захавалі свежасць і яркасць беларускай мовы таго часу. А.Мальдзіс, у сваю чаргу, уручыў пану Валку факсімільнае выданне газеты "Наша Ніва", адзначыўшы, што яна некалі шмат зрабіла для станаўлення яўрэйскай культуры на Беларусі.*

Фота Генадзя ЖЫНКОВА.

## У НЕКАЛЬКІ РАДКОЎ

- 28 лютага ў Міністэрстве культуры была праведзена нарада, на якой абмяркоўвалася святкаванне 200-х угодкаў паўстання Тадэвуша Касцюшкі.

- 28 лютага ў Мінскай зале камернай музыкі (праспект Ф.Скарыны, 44-а) прайшоў другі канцэрт цыкла «Выдатныя творы для віяланчэлі і фартэпіяна» ў выкананні Алега Алоўнікава (віяланчэль) і Юрыя Гільдзюка (фартэпіяна). Гучала музыка І.С.Баха, Ф.Куперэна, К.Дэбюсі, Э.Грыга.

- 28 лютага ў Белдзяржфілармоніі пасля закрыцця джаз-фэсту «Мінск-94» адбыўся «Канцэрт пасля фестывалю». На сцэне вялікай залы выступіла трыо «Эскудэ» з Францыі.

- 1 сакавіка ў Доме дружбы і культурных сувязяў з замежнымі краінамі праведзены беларуска-балгарскі літаратурны вечар, прысвечаны Нацыянальнаму сьвяту Балгарыі.

- 4 сакавіка ў Мінскай зале камернай музыкі (праспект Ф.Скарыны, 44-а) — канцэрт фартэпіяннай музыкі. Іспанская піяністка Роса Марыя Кучарска выканае творы А.Салера, І.Альбеніса, Э.Гранадаса, Х.Турына.

- 4-5 сакавіка на Вольнай сцэне Дзяржаўнага тэатра-лабараторыі нацыянальнай драматургіі — прэм'ера жахлівай камедыі М.Казачонка «Прыватны сектар».

- 4-7 сакавіка ў Нацыянальным тэатры імя Я.Купалы — прэм'ерны паказ п'есы класіка беларускай драматургіі В.Дуніна-Марцінкевіча «Ідылія».

- 6 сакавіка ў Белдзяржфілармоніі — канцэрт «Юныя таленты — лаўрэаты міжнародных конкурсаў» у рамках праграмы «Новыя імёны». Разам з Дзяржаўным акадэмічным сімфанічным аркестрам Рэспублікі Беларусь выступяць вучні ліцэя пры Беларускай акадэміі музыкі Дзяніс Маслюк і Паліна Хацько.

- 6 сакавіка Тэатр-студыя кінаакцёра пакажа прэм'еру — «Тэатр купца Япішкіна» Е.Міровіча.

# «ДЗЕНЬ ПРАСТАЯЦЬ ДЫ НОЧ ПРАТРЫВАЦЬ»,

ПАЛІТЫЧНЫ БАРОМЕТР

*— так ахарактарызаваў палітыку дзеючых уладаў старшыня Аргкамітэта Патрыятычнага руху «Беларускае згуртаванне вайскоўцаў» Мікола Статкевіч.*

Выглядае на тое, што былы афіцэр, якому, вядома, пасуе цытаванне літаратурных твораў на вайсковую тэматыку, абсалютна дакладна ўмее арыентавацца ў баявой сітуацыі. А варункі, у якіх сёння гойдаецца Беларусь, сапраўды нагадваюць нейкую своеасаблівую мілітарызаваную прастору: акопы Вярхоўнага Савета, бастыёны Дома ўрада, дзоты афіцыйнай прэсы, палявая артылерыя Міністэрства ўнутраных спраў, бронекамізэлькі дэпутацкай недатыкальнасці прадстаўнікоў парламенцкай апазіцыі, адчайныя атакі страйкамаў, кароткія перабежкі дэмакратычных партый і г.д. і да т.п. І калі тэатр непасрэдных ваенных дзеянняў абмяжоўваецца цэнтральнымі кварталамі сталіцы з рэдкімі ўспышкамі баёў мясцовага значэння ў правінцыі, то традыцыі ваенных дух войны вітае над усёй Беларуссю. Гэты дух — у палярызацыі грамадства. У вялікіх абяцанках і малых выкананках. У тым, што хочацца бачыць і што ёсць на самой справе.

Гэта тыя варункі, якія другі былы афіцэр, старшыня Сялянскай партыі Яўген Лугін, параўнаў з мінай запаволенага дзеяння: яна ўжо закладзена пад Беларусь, гадзіннікавы механізм пушчаны, і толькі ад сапёраў-палітыкаў залежыць поспех альбо няўдача размініравання.

І ўсё ж — хто каго, а калі шандарахне — дык каму болей дастанецца?

Лагічна задацца такім пытаннем, ды куды больш цяжка на яго адказаць.

Пагледзім, для прыкладу, чым займаліся апошнім часам «наверсе». Другая палова лютага зноў прайшла для іх пад знакам самаахвярнага чакання рублёвай зоны. Друк і тэлебачанне даволі няўцямна асвятлілі візіт у Маскву прэм'ера, але пайшла пагалоска, што быў ён не надта ўдалым, маўляў: «Хочаш рублёў — уступай у Расейскую Федэрацыю». Канчайце, словам, са сваёй незалежнасцю, а не — дык самі круціцеся. Не паверыў бы, але тут жа адбываюцца перамовы В.Кебіча з прэм'ерам Латвіі на прадмет ... латвійскіх тэрміналаў для арабскай нафты, якая пацячэ на Беларусь! Магчыма, гэта і ёсць першы крок да самастойнага «кручэння»? Ці нехта нарэшце зразумеў, што 90 долараў за тону нафты ў Ратэрдаме ўсё ж менш, чым 128 «зялёных» у Маскве?

Словам, сітуацыя з рублём за месяц стала яшчэ больш заблытанай: дырэктарскі корпус у роспачы, старшыні калгасаў разводзяць рукамі, дэпутаты Вярхоўнага Савета з надзеяй узіраюцца ў твар лідэра фракцыі «Беларусь» (ці не смешна?) спадара Казлова ("Ну, што з Саўміна чуваць?"), а прэм'ер — хварэе.

Тым часам парламент быў вымушаны зноў сабрацца ў Авальнай зале. Трэба ж нешта рабіць! Паабяцаць, напрыклад, новыя выбары. У лістападзе, праўда, а не ў сакавіку, але, з другога боку, менавіта ў гэты час разгараецца вясна ў паўднёвым паўшар'і, а таму, калі паглядзець з таго ж боку, выбары адбудуцца вясной, як і абяцалася. Ці вось важная справа — пазбавіць спадара Антончыка дэпутацкай недатыкальнасці: няма чаго дэпутатаў страйкамі палохаць! А яшчэ Канстытуцыю прыняць, выбары Прэзідэнта прызначыць, выбарчы закон мадэрнізаваць (зменшыць, для прыкладу, склад парламента на колькасць месцаў, што займае Апазіцыя) і г.д. Працуюць, што ні кажы, людзі!

Але і дэмакраты не спяць! Так, на пачатку мінулага тыдня правялі нараду патрыятычных і дэмакратычных сіл краіны. І, між іншым, былі абсалютна адзінадушнымі ў ацэнцы палітычнай сітуацыі на Беларусі: дэмакратычнага іміджу ўладаў больш не існуе, рэпрэсіі, развязаныя супраць страйкаўцаў у парушэнне ўсіх дакументальна зафіксаваных чалавечых правоў, сталі сведчаннем сапраўднага аблічча кіруючых колаў. Была падкрэслена неабходнасць тэрміновых новых выбараў вышэйшага заканадаўчага органа, але найперш — адстаўкі ўрада і стварэння кааліцыйнага органа выканаўчай улады.

Такім чынам — наперадзе не стваральная праца, не клопаты пра сяўбу ці рэформы. А чарговая вясна чаканняў, бяздзейнасці ўладаў і спробы стаць насуперак Часу.

**Максім ГІЛЕЎСКІ.**




Фота Генадзя ЖЫНКОВА.

# РЭФОРМЫ, АЛЕ НЕ КОШТАМ ЛЮМПЕНІЗАЦЫІ

17 — 19 лютага ў Мінску праходзіла міжнародная канферэнцыя «Асноўныя пытанні сацыяльнай палітыкі і гаспадарання ў Беларусі і суседніх краінах», арганізаваная Фондам братоў Луцкевічаў і Міжнародным інстытутам працоўных і сацыяльных адносінаў (Беларусь), Фондам імя Ф.Эберта (Германія) і Цэнтрам імя Улафа Пальмэ (Швецыя).

Спавешчанні і дыскусіі ўдзельнікаў былі прысвечаныя праблемам сацыяльнай абароненасці насельніцтва пры пераходзе да рынкавай эканомікі, панящцю ўласнасці з сацыяльна-дэмакратычнага гледзішча, асноўным накірункам прыватызацыі дзяржаўнай маёмасці, ролі менталітэту нацыі ў працэсе палітычных ды эканамічных рэформаў. Удзел у канферэнцыі бралі вядомыя эканамісты і філосафы, прадстаўнікі палітычных партый дэмакратычнай арыентацыі, «афіцыйных» і незалежных прафсаюзаў, цэнтральных і мясцовых органаў улады. Было запрошана і кіраўніцтва ўрада, але, як мы ведаем, менавіта ў гэты час яно працавала ў Маскве над нагадненнямі аб «рублёвай зоне новага тыпу».

Бадай што найчасцей у прамовах і абмеркаваннях гучала наступная думка: дабрабыт нашага народа залежыць не ад добразычлівасці Расеі або Захаду, а ад нас саміх, ад нашай волі пабудаваць незалежную дзяржаву з моцнай эканомікай і сучаснай культурай. І рэфармаваць эканоміку трэба не коштам люмпенізацыі асноўнай часткі насельніцтва, а наадварот, праз ператварэнне наёмных работнікаў у заможны «сярэдні клас». Удзельнікі канферэнцыі ўхвалілі рэзалюцыю, у якой канстатуецца паглыбленне крызісу ў нашай краіне. Спробы цяперашняга ўрада рэфармаваць эканоміку апынуліся адно імітацыяй. Шукаць паратунку толькі ў знешніх пазыках — шлях недальнабачны і бесперспектыўны. Выйсцем з крызісу павінны стацца сапраўдныя рынкавыя рэформы: раздзяржаўленне маёмасці, пашырэнне канкурэнцыі вытворцаў, рэфармаванне падатковай сістэмы і г.д...

Апрача таго, прадстаўнікі сацыял-дэмакратычных партый Швецыі, Германіі, Расеі, краін Балтыі і БСДГ падпісалі рэзалюцыю аб парушэнні правоў чалавека ў Рэспубліцы Беларусь, гаворка ў якой ідзе аб пераследзе прафсаюзных актывістаў напярэдадні і падчас палітычнага страйка: гэта расцэньваецца як спроба ліквідаваць незалежны прафсаюзны рух. Таксама недапушчальным называецца манапольны кантроль урада над сродкамі масавай інфармацыі. З гэтай рэзалюцыяй будзе азнаёмлена, у прыватнасці, кіраўніцтва шведскіх і германскіх прафсаюзаў.

Па выніках работы канферэнцыі мае быць неўзабаве выдадзены зборнік.

**Юрась БАРЫСЕВІЧ.**

**Нагадваем нашым чытачам, што да 10 сакавіка працягваецца падпіска на штотыднёвік «Культура» на другі квартал 1994 года.**
**Падпісны індэкс «Культуры» — 63875.**
**Кошт падпіскі:**
**на тры месяцы — 2 400 рублёў,**
**на адзін месяц — 800 рублёў.**

# ПАЛАЖЭННЕ

*аб рэспубліканскім конкурсе плаката, прысвечанага 50-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.*

Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Саюз мастакоў Рэспублікі Беларусь аб'яўляюць адкрыты рэспубліканскі конкурс плаката, прысвечанага 50-годдзю з дня вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Мэта конкурсу — стварэнне высокамастацкіх твораў плаката, якія маглі б адлюстроўваць гістарычнае значэнне вызвалення нашай дзяржавы ў гады Вялікай Айчыннай вайны ад фашысцкай акупацыі, вялікую ролю ў гэтым Савецкай Арміі, партызанскага руху на тэрыторыі рэспублікі ў гады вайны, погляд сучасніка на справу перамеснасці пакаленняў у адстойванні свабоды і незалежнасці беларускага народа, яго суверэнных правоў сярод міжнароднага супольніцтва.

Дзеля вызначэння лепшых плакатаў, якія будуць пададзены на конкурс, ствараецца журы з прадстаўнікоў Саюза мастакоў, другіх грамадскіх і дзяржаўных фарміраванняў.

## УМОВЫ КОНКУРСУ

Да ўдзелу ў конкурсе запрашаюцца прафесійныя мастакі, студэнты мастацкіх устаноў, супрацоўнікі выдавецтваў.

Тэрмін правядзення конкурсу з 1.02.94 па 1.04.94 г.

На конкурс прадстаўляюцца арыгіналы плакатаў, выкананых ў любой тэхніцы і матэрыяле, у падыходзячым для друку выглядзе: на трывалай аснове, фарматам 60х90 і 70х100 см.

На адваротным баку плакаты пазначаюцца шыфрам (шасцізначнай лічбай). Да работы дадаецца запячатаны канверт, які таксама пазначаецца такім жа шыфрам. У канверт укладваецца лісток са звесткамі аб аўтарах: прозвішча, імя і імя па бацьку, год нараджэння, месца работы альбо вучобы, нумар тэлефона, а таксама дакладны паштовы адрас.

Плакаты з паметкай «На конкурс» накіроўваюцца: г. Мінск, вул.Казлова, 3 (Палац мастацтва). Прапановы, накіраваныя з парушэннем тэрміну, журы разглядаць не будзе. Члены журы ў конкурсе ўдзелу не прымаюць.

Аргкамітэт не нясе адказнасці за магчымае пашкоджанне альбо страту плакатаў у час перасылкі.

Пераможцам творчага спаборніцтва ўстанаўліваюцца прэміі:

адна першая — 10 мінімальных зарплат
адна другая — 7 мінімальных зарплат
адна трэцяя — 5 мінімальных зарплат

Вынікі конкурсу будуць паведамлены ў рэспубліканскай прэсе. Прэміяваныя творы будуць надрукаваны паліграфічным спосабам. За плакаты, прынятыя да друку, выплачваецца ганарар, незалежна ад сумы прэміі.

Плакаты, дасланыя на конкурс, не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца. Пасля таго як на працягу месяца з дня абвяшчэння вынікаў конкурсу плакаты не будуць запатрабаваныя, — яны знішчаюцца з афармленнем адпаведнага пратакола.

Тэлефон для даведак у Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь — **29-62-81.**

Аляксандр СТАНЮТА

# ЧАС СПРАВАЎ, ЧАС СЛОВАЎ

## 1. ПА НАПРАМКУ ДА ІДЭІ

Нацыянальнае адраджэнне і нацыянальна-патрыятычная ідэя — на слых для многіх гэта можа азначаць адно і тое ж. Асабліва па радыё або з тэлеэкрана, а таксама ў залах і на плошчах — у звычным узмацненні праз мікрафон ці мегафон.

На самой жа справе гэтыя паняцці, з'явы — абсалютна розныя. У нас сёння — проста супрацьлеглыя.

Нацыянальнае адраджэнне — гэта не проста аднаўленне таго, што было — забытае ці забітае. Не толькі «прэзентацыя» слаўнага мінулага. І не якія-небудзь нацыянальныя паркі, запаведнікі ў галіне культуры.

Каб мінуўшчына нацыі існавала і сёння, яна не павінна жыць адным мінулым.

Інакш яе адраджэнне «завязне ў гісторыі».

Усе мы часта паўтараем, што без памяці жыць немагчыма. Гэта аксіёма. Але для таго, каб памятаць, трэба перш за ўсё жыць, гэта значыць рухацца.

Сапраўднае нацыянальнае адраджэнне — гэта энергія, што адчыняе знутры межы нацыі, каб яна ўвабрала ў сябе яшчэ больш карыснага вопыту, сталася багацейшай.

Калі ў 1921 годзе беларускі ўрад пасылае ў Маскву на 5 гадоў вучобы здольную, але нявопытную моладзь, — гэта нацыянальнае адраджэнне. Бо ў 1926 годзе Беларусь атрымлівае дзякуючы гэтаму свой другі нацыянальны драматычны тэатр — у Віцебску. (І такіх, дарэчы, майстроў сцэны, якім апладзіруюць яшчэ і сёння — ужо ў Купалаўскім тэатры.)

Але калі кажуць, што праз міжнародны суд у Гаазе Беларусь павінна вярнуць сабе «Вільню», — гэта ўжо нешта зусім іншае. Як і заклікі засцерагчы сваю ментальнасць ад уплыву суседзяў у інфармацыйным эфіры.

Не трэба думаць, што нацыянал-патрыятызм — ідэя толькі беларускіх нацыяналістаў, як сцвярджаюць мясцовыя камуністы. Гэта іхняя ўласная ідэя.

Так, яны заўсёды супраць беларускага нацыянальнага адраджэння. Сама беларуская гутарка на Беларусі для іх — ужо «нацыяналізм». Але яны заўсёды — за расейскую нацыянальна-патрыятычную ідэю. Як і вайскоўцы, дырэктары з ВПК і наогул кіраўнікі савецкага тыпу, прыхільнікі «сацыялістычнага выбару».

Таму што дзякуючы гэтай ідэі яны спадзяюцца як-небудзь «падвязацца» да Расіі.

Але не да Расіі рынкавых рэформаў, а да Расіі рэсурсаў, сыравіны — і як мага таннейшых.

Не да Расіі антыімперскай знешняй палітыкі, а да фарпостаў расійскай вялікадзяржаўнасці.

Таму што вельмі цяжка самім добра думаць і разумна дзейнічаць, мець свой характар і годнасць. І лягчэй за ўсё —атрымліваць у фарпостах «вялікай Расіі» ўсё ранейшае, як у СССР — неблагую стабільную зарплату, забеспячэнне і адносны спакой.

Але мінулае не вернецца.

Таму і нацыянальнае адраджэнне, і суверэнітэт, і нейтральнасць прыхільнікі ды абаронцы гэтага ранейшага гатовыя абмяняць па бартэры: вы нам — нафту, ваенныя заказы, а мы вам — усё, што скажаце.

## 2. МОВА МАЯ, МОВА ТВАЯ...

Без усялякага сумнення, дзяржаўнай, афіцыйнай мовай Рэспублікі Беларусь павінна быць толькі беларуская.

У адваротным выпадку, пры сённяшнім разуменні гэтага пытання прыхільнікамі двухмоўя ў парламенце, грамадзянам Беларусі давядзецца мець — а пры неабходнасці і спяваць — свой нацыянальны гімн на дзвюх дзяржаўных мовах. А гэткага ў свеце яшчэ не чувалі.

Праўда, наш парламент і тут можа выказацца «памяркоўна». Да прыкладу, за гімн з рускім тэкстам і беларускай музыкай —цымбалы, дудка і г.д. Дарэчы, штосьці падобнае мы ўжо маем: руская газета з назвай, для экзотыкі напісанай па-беларуску: «Рэспубліка» — унікальны выпадак у практыцы сусветнага друку.

Афіцыйная дзяржаўная беларуская мова і закон, які гарантуе поўную жыццёвую свабоду мове расейскай, — тут няма аніякіх сур'ёзных праблем. Але ёсць свядомыя спробы прадставіць гэта як дыскрымінацыю рускамоўнасці.

Ёсць моманты палітычнай істэрыкі з нагоды быццам бы парушаных правоў чалавека. Найбольш чутная яна з боку прасавецкіх і «вялікарускіх», па-імперску настроеных людзей. З боку зноў-такі камуністаў, кадравых і адстаўных вайскоўцаў, ветэранаў, былой партыйнай наменклатуры. Тут даходзіць і да смешнага, і тады міжвольна ўзгадваецца прынцып савецкіх эмігрантаў: у якой бы краіне ні жыць, абы толькі не размаўляць на яе мове. Як вядома, прынцыпаў гэтага асабліва ўпарта прытрымліваюцца рускамоўныя адэсіты на Брайтан-біч: хутчэй Амерыка загаворыць па-адэску, чым мы вывучым хаця б адзін сказ па-англійску.

Асцярожная, а значыцца, рэальная беларусізацыя не толькі карысная для беларусаў, але можа выклікаць і вельмі паважнае, спагадлівае стаўленне з боку небеларускамоўнага насельніцтва.

Што ж патрэбна для гэтага?

Па-першае, не прафанаваць гэтую справу нізкай культурай выканання.

Тут важным з'яўляецца ўсё: ад самога зместу і формы работы — да знешняга аблічча ўцягнутых у яе людзей, іхняга «відэа-» і «аўдыявобраза». Апошняе, між іншым, у адпаведнасці з прынцыпамі масавай псіхалогіі і ўспрыняцця, адыгрывае нярэдка першачарговую ролю.

Напрыклад, цяжка дыскрэдытаваць беларускую мову ў большай ступені, чым гэта робіць на працягу многіх гадоў А.Жук, карэспандэнт маскоўскага TV на Беларусі. Дастаткова звярнуць увагу на ягоную знешнасць у кадры, беларускі акцэнт ягонага «расейскага» вымаўлення і дыкцыю. Аднак падобны эфект адчужэння ніколі не ўзнікае ў гледачоў пры рэпартажах з Таліна або Вільнюса, калі выразна чуваць эстонскі або літоўскі акцэнт і калі мы бачым на экране саміх гэтых рэпарцёраў.

І ніякай надзеі спадабацца няма ў беларускай мовы, якая гучыць па радыё з вуснаў тых пісьменнікаў, мове якіх эфір проста супрацьпаказаны па элементарных эстэтычных меркаваннях.

У тактычным, ненавязлівым далучэнні людзей да той ці іншай мовы яе «імідж» мае вырашальнае значэнне. Мова павінна прыцягваць. У гэтым сэнсе вельмі карыснай была б мода на беларускую мову, якая ўзнікла б сама па сабе. Але для гэтага яна павінна гучаць з вуснаў тых людзей, якіх хацела б пераймаць моладзь, а не тых, каго хацелася б перадражніваць.

Па-другое, рацыянальная ды рэальная беларусізацыя, гэта значыць у поўным сэнсе дэмакратычнае, свабоднае бытаванне беларускай культуры і мовы — не павінна замяшчацца легкадумным этнаграфізмам. Інакш гэта будзе ўспрымацца як надакучлівая бутафорыя.

І трэцяе, магчыма, найважнейшае: нельга разумець беларусізацыю толькі як дэрусіфікацыю. Інакш кажучы, і тут, як і паўсюль сёння, трэба пакінуць, нарэшце, з кімсьці і чымсьці змагацца, а пачаць больш думаць і працаваць.

Тым больш, што цяпер ужо вельмі цяжка і саміх «нашчадных» беларусаў вярнуць да беларускай мовы ў паўсядзённым жыцці. Падставы тут сур'ёзныя і даўнія. Шмат што абумоўлена мінуўшчынай беларускай зямлі як своеасаблівага гістарычнага перакрыжавання. Аб гэтым шмат напісана і даволі часта гаворыцца.

Але існуе, на наш погляд, і падстава, якую вельмі цяжка прызнаць гістарычнай навуцы і руху за нацыянальнае адраджэнне. Таму што тады рэзка звужваецца прастора для розных міфаў — хай сабе прыцягальных і нават неабходных, як і для любой іншай нацыі, якія ствараюцца з самымі добрымі намерамі.

Бо ёсць адчуванне, што асабістая свядомасць і самасвядомасць цяперашніх беларусаў, так бы мовіць, ужо перараслі адэкватныя гэтай свядомасці, але ўжо зацесныя для яе, моўныя формы.

Так адбылося не толькі з-за гістарычна-падпарадкаванага, але і прыроднага, натуральнага суіснавання з Расіяй, з маскоўскай, а праз яе, і з сусветнай культурай. Гэта значыць, па законах развіцця блізкасваяцкіх этнічных і культурных арганізмаў, што знаходзяцца на перыферыі магутнага асноўнага ствала і жывяцца ад яго.

Тут няма нічога, што абражала б годнасць такіх «арганізмаў»-нацыяў. Іншая справа, што ў сэнсе філасофіі культуры тут можна разважаць пра якуюсьці фатальную, метафізічную несправядлівасць, пра драму нацыяў, якім быццам бы наканаваны лёс «малых», і г.д. Але гэта ўжо, так ці інакш, размова аб першасна-прыродным драматызме самога жыцця.

Здольнасць жа да выжывання ўсялякай, нават найменшай нацыі — гэта здольнасць ацаніць і прыняць свае маштабы і моц як адзіна рэальныя і абапірацца толькі на іх.

У рэшце рэшт, павагу да сябе ўсялякая нацыя выклікае і той годнасцю, з якой яна займае хоць і сціплы, але менавіта свой «пасад між народамі». Тым самым яна даводзіць сваю стойкасць, тую моц, што маецца нават у слабых.

Гэтую моц, дарэчы, і меў на ўвазе Дастаеўскі, рускі пісьменнік, калі падкрэсліваў больш за стагоддзе таму: «... Без веры ў сябе на працягу стагоддзяў беларускі народ не выстаяў бы і не выратаваў бы сябе ніколі».

У тым адраджэнні, пра якое сёння ідзе гаворка ў друку, радыёэфіры, нярэдка пераважае рамантызаванае, настальгічнае ўяўленне пра мінулае. Як паэтычная і эмацыянальная афарбоўка праблемы, ізноў-такі як міф у самым лепшым сэнсе слова, гэта карысна для развіцця творчай свядомасці моладзі і надае своеасаблівы каларыт яе гістарычнаму мысленню.

Але будаваць сваё новае трэба, магчыма, і не ўтаропіўшыся ў праблему мовы, сёння яшчэ амаль невырашальную з-за небеларускай паўсядзённай мовы вялізарнай большасці жыхароў рэспублікі.

Будаваць сваё новае трэба, перадусім, у эканамічным ды дзяржаўным сэнсе. Тым больш, што пытанне з мовай тут — не перашкода. Калі жыццё стане больш стабільным, тады і да нацыянальнай культуры, да мовы пачнуць ставіцца з большай цікавасцю. Ужо і цяпер хутка раскупляюцца не толькі слоўнікі, але і іншыя добрыя кнігі на беларускай мове. Напрыклад, даследаванні Ю.Туронка пра Беларусь у гады нямецкай акупацыі, В.Кіпеля аб беларусах у ЗША і апошні зборнік вершаў Р.Барадуліна зніклі з паліцаў праз лічаныя тыдні.

А потым, хай сабе і не без усмешкі, але можна прыгадаць, так бы мовіць, «патрыятычныя» аспекты моўнай праблемы яшчэ ў Пушкіна. Хто з нас дакараў гераіню «Яўгена Анегіна» за тое, што, па сведчанні аўтара, «она по-русски плохо знала, журналов наших не читала и выражалася с трудом на языке своём родном, итак, писала по-французски»? А гэта ж Таццяна, «руская душою», у чым мы ніколі і не сумняваліся, пачынаючы са школьных гадоў.

Не менш цікавае і пытанне Пушкіна пра французскую мову ўвогуле ў вуснах ягоных сучаснікаў: «... И в их устах язык чужой не обратился ли в родной»? Хіба нешта падобнае не адбылося на Беларусі з рускай мовай, тым больш, што ў такой ступені «чужой» яна ніколі і не была?

*(Заканчэнне будзе.)*

# «МЫ ПАСЁМ ВЯЛІКІ СТАТАК...»

Мудрыя людзі яшчэ ў старажытнасці казалі, што скрайнасці сыходзяцца. Так сыходзяцца, як два шматкі парванай ці то навагодняй, ці то калядоўнай паштоўкі. І тое, што колісь звалася прапагандай, з тым, што цяпер завецца рэкламай, таксама маюць шмат агульных рысаў. Агаваруся — з тутэйшай рэкламай, гэткай жа абстрактнай для «непарламенцкай» большасці, як і яшчэ памятныя лозунгі ды заклікі. Два полюсы злучаюцца, як кажуць літаратары, у інтанацыі — пафаснай, падвышанай, разлічанай на паўторы, на выпрацоўку «аўтаматычных» рэакцый, бо і рэкламныя заклікі, і лозунгі караняцца ў эстэтыцы масавай культуры, нават глыбей — у народных уяўленнях пра шчасце, пра даступныя для ўсіх казачныя малочныя рэкі з кісельнымі берагамі. Але ў межах практычна адзінай эстэтыкі адбываецца быццам бы дыялектычная барацьба процілегласцей, і масавая псіхалогія ад штодзённых аскомных заклікаў за «OLBI» ці «МММ» цягнецца да настальгічнага савецкага рэтра. Людзі адчуваюць ледзь не катарсічныя перажыванні, калі глядзяць старыя кінастужкі, калі чуюць песні ў выкананні Л.Уцёсава ці К.Шульжэнка. Ды і не толькі гэтых сапраўды геніяльных спевакоў — а проста песні таго часу, як здавалася, калектывізму, упэўненасці ў заўтрашнім дні і надыходзячага здзяйснення запраграмаваных мыльнаоперных жаданняў.

Летась за некалькі хвілін да сустрэчы з культасветработнікамі аднаго з раёнаў у «дапаможнай» бібліятэчцы Дома культуры мне трапілася на вочы брашурка выпуску 1956 года з нотамі і словамі адной з «абшчынна-дзяржаўных» песень. Мяркуючы па незашмальцаваным выглядзе гэтага рарытэта, брашурка рэдка ўжывалася ці выпадкова захоўвалася ў «арсенале» да лепшых часоў. Песня на словы М.Кір'янава і музыку Б.Шварцштэйна называецца невыразна «Жизнь в колхозе хороша». Гэты твор, здаецца, нічым, апроч зайздроснага доўгажыхарства, не выбіваецца з шэрагу да сябе падобных. Але ў той жа час з рэкламнай заканамернасцю ўтрымлівае ідэйны экстракт: «Кто отстанет — мы подтянем, потревожим вас слегка», «Все работаем для счастья дорогой своей страны», «Мы пасем большое стадо, жизнь в колхозе хороша». Знаёмы да болю аптымізм, магчыма, і ёсць тое адзінае, што страцілі сучасныя сродкі масавай інфармацыі, захаваўшы традыцыйную вернасць накірунку да агульнага шчасця, нягледзячы на ўсе палітычныя землятрусы апошняга дзесяцігоддзя. Па сутнасці, ці не падобную ісціну ўтрымлівае вечны, хаця і рознаіпастасны сказ «Каб лепш жыць — трэба лепш працаваць», гэтак жа гучыць сённяшняе: «Не баставаць трэба, а працаваць», ці: «Толькі калі ўсе разам возьмемся за справу, то выйдзем з крызісу» (варыяцыі можна працягваць). Калі я чую ці чытаю шматлікія фармулёўкі гэтага выказу, то з




кінематаграфічнай «буйнапланасцю» ўяўляю брыгаду антычных Сізіфаў, ударнікаў рабскай працы, кожны з якіх імкнецца працаваць больш і лепш. Ды навошта згадваць класічныя міфы, калі ў «Кінапраўдзе» час ад часу з'яўляюцца ці то «Вялікія грамадзяне», ці то «Кавалеры Залатой Зоркі»... І па каляіне памяці гэтыя вобразы даязджаюць да падсвядомасці многіх з нас, да светлай і нязбытнай мары аб жаданай утопіі. А таму, як ні парадаксальна, мы любім глядзець старыя фільмы, спяваць старыя песні. І — у гэтым жа шэрагу — мы любім кіраваць культурай, гэтым кіраваннем падмяняючы саму культуру, яе эстэтыку — пралеткультаўскім абсалютам. Згадаем хаця б яшчэ не забытыя дырэктывы, што тычыліся мастацкай самадзейнасці. Ці нязменныя просьбы да нашага штотыднёвіка друкаваць простыя і ясныя, як дакументы партз'ездаў, метадычныя распрацоўкі сцэнарыяў. Кіраванне — па вызначэнні — заўсёды абмяжоўвае творчасць, пераводзіць дзею ў дырэктыўныя часы і прасторы. І ў гэтай сувязі мне здаецца цалкам натуральнай бібліяграфічная «дзеючая мадэль», па форме, па змястоўнай пустаце аналагічная папулісцкім перадавіцам газет усіх перыядаў яўнага і прыхаванага таталітарызму. Ход часу скрыўляецца, калі развіццё падмяняецца кіраваннем развіцця. Але такая ўжо чалавечая прырода, што ў інтэр'ерах [illegible] лабірынтаў хочацца верыць у [illegible] выйсце, у аднасэнсоўныя сюжэты і няхітрыя песні, хочацца ўтульнасці хаця б у нетры вялікага статка, якім кіруе лагодны пастыр.

Галіна БУЛЫКА.

КАНТРАМАРКА

# Промні неўміручай легенды

(Працяг . Пачатак у № 8)

## ПРАМЕНЬ ДРУГІ: эпас — драма — сцэна

Сам факт інсцэнізацыі, тэатралізацыі лірыка-эпічнага твора Гусоўскага — адной з вяршынь не толькі беларускай літаратуры, а ўвогуле еўрапейскага Рэнесансу — заслугоўвае пашаны. Першапраходцам выступае сучасны знакаміты драматург Аляксей Дудараў. Ён зрабіў спробу (адразу зазначым, вельмі нават удалую) напісаць п'есу паводле эпасу. Слушна, таму што проста інсцэнізаваць, гэта значыць, перавесці ў дыялогі твор Гусоўскага, падаецца справай немагчымай. Зыходнай ідэяй для драматурга быў паказ трагізму вольналюбівага паводле сваёй прыроды народа, змучанага войнамі, з якога і ўласныя валадары выпампоўваюць кроў, але які тым не менш жыве, усведамляючы гэтае права жыць. Апавядальнасці эпасу Дудараў не пазбягае, але з разраду паэтычнай дамінанты пераводзіць яе на ўзровень драматургічнага прыёму: на сцэну выйдзе Магістр (апавядальнік), стане ля канторкі і пачне расказ. Ён (артыст Леанід Улашчанка) — гэта ў рэшце рэшт сам Гусоўскі, гуманіст, паэт, асветнік, які спакойна, паэтычна, неабыякава распавядае чалавецтву пра паляванне на зуброў, пра свой пушчанскі край, яго звычкі, норавы, гісторыю, супярэчнасці «залатога веку» Вітаўта.

Ведаючы абодва пераклады з лаціны на сучасную беларускую мову «Песні пра зубра» — Язэпа Семяжона і Уладзіміра Шатона, — Дудараў аддае перавагу першаму, бо ў дадзеным выпадку яго недахопы (парушэнні гістарызму і метрарытмікі элегічнага двуверша, што спалучае гекзаметр і пентаметр) ідуць на карысць: перастварэнні паэмы Семяжонам згодна з сучаснай паэтыкай лягчэй зразумець і вымавіць акцёру, яны больш драматургічныя. Другі, больш новы пераклад Дудараў, так бы мовіць, трымаў у памяці: не без яго ўплыву дапісваў тэкст, даваў характарыстыкі, выпісваючы новых персанажаў (Ягайла, да прыкладу) ці пераасэнсоўваючы вобразы Гусоўскага, распрацоўваў агульную ідэю п'есы, расстаўляў гістарычныя акцэнты. П'еса складаецца з трох тэматычных пластоў: побыт, норавы, вера ў Вялікім княстве Літоўскім эпохі Вітаўта і Ягайлы; войны і лёс народа — агульнапатрыятычны матыў; уладары і простыя людзі — паляванне на зубра як паляванне на свой народ. Зубра як матэрыяльнай, персаніфікаванай дзейнай асобы ў п'есе і спектаклі няма. Ён алегорыя, сімвал краю ўвогуле, супольнасці і князёў, і духавенства, і прасталюдзінаў. Яны ўсе разам уяўляюць сабой зубра, калі ратуюць сваю годнасць, сваё жыццё пад націскам чужынцаў ці нават пярэваратняў са сваіх. Зубр — гэта і народ, які не скорыцца і сваёй уладзе, што будзе рабіць над ім здзек. Зубр —увогуле алегорыя-утопія прыгожай мары пра гармонію свету, прыроды, грамадства. Дзеля дасягнення канфліктна-кампазіцыйнай цэласнасці драматургічнага сюжэта пры пераводзе эпічнай апавядальнасці ў дзеянне Дудараў уводзіць шэраг новых персанажаў, «прымушае» іх дзейнічаць, «жыць» у дыялогах і маналогах. Так



з'яўляецца Магістр, Ягайла, Суддзя, Блазен, Смерд, Біскуп і інш.

Драматург шукаў шляхі пераводу эпасу ў драму, тэатр жа найперш шукаў жанр. Згодна з мастацкім вынікам я яго вызначаю як сцэнічную легенду. Больш таго, падаецца, што гэта быў найбольш апраўданы шлях. Дзіўна, але мы, маючы высокамастацкую эпічную літаратуру сусветнага ўзроўню, у адрозненне ад краінаў-суседзяў, найперш Польшчы і Літвы, з якімі маем шмат кропак дачыненняў і ў гісторыі, і ў мастацтве, практычна не выпрацавалі сцэнічнай традыцыі такіх жанраў, як «легенда», «народна-паэтычны сказ», «быліна». Былі асобныя спробы. Пашукаўшы ў гісторыі тэатра, можна назваць на гэтай жа тюгаўскай сцэне «Папараць-кветку» І.Козела, «Легенду пра песню няспетую» М.Пало і І.Папова ў Гомелі, «Сымона-музыку» Я.Коласа ў Віцебску.

Пастаноўшчык «Песні пра зубра» рэжысёр Мадэст Абрамаў «будуе» жанр, шукаючы тыя сродкі выразнасці сучаснай сцэны, з дапамогай якіх можна матэрыялізаваць у відовішчных і гукавых вобразах апавядальныя, паэтычныя і драматургічныя пласты п'есы, гарманізаваць іх. Эпічны (апавядальны) пласт знойдзе сваё вырашэнне ў тэкстах-фанаграмах, якія будуць гучаць лейтматывам на працягу ўсяго відовішча. У іх і найбольш істотныя філасофскія роздумы Гусоўскага, і паэзія прыроды, жыцця. Яны счэпяць у адно цэлае ўжо нашым сучаснікам напісаныя драматычныя сцэны, а мужная і ўсхваляваная інтанацыя артыста Анатоля Жука, што гучыць з дынамікаў, разам з музыкай кампазітара Уладзіміра Кандрусевіча стануць вызначальнай экспрэсіўнай і рытмічнай дамінантай спектакля. Музыка, напісаная па прынцыпе сімфанізму, ахоплівае час, лёсы, прастору сваёй высокай эмацыянальнасцю, бяздоннай глыбінёй раскрыцця тэмы. У ёй водгулле сівых вякоў і экспрэсіўныя знакі сучаснасці, драматызм і трагізм, мара і надзея на збавенне, нарэшце, яна адпавядае адметнай метрарытміцы паэмы.

Форма спектакля ўяўляе сабой эфектнае пластычнае відовішча. Менавіта пантамімічная вобразнасць аказалася найбольш адэкватнай метафарычнасці лірыка-эпічнай паэмы, яе ўнутраным рыфмам. З выразных знакавых мізансцэн, з пантамімічных маляўнічых эпізодаў, узмоцненых гукамі галашэння, плачу, стогну, і ўзнікае тая самая форма мастацкага абагульнення, што блізкая да народна-песеннага сказу ці легенды. Скупасць пафасна-рамантычных інтанацый выканаўцаў, якая (скажу шчыра) часам становіцца аднастайна-манатоннай у такой ступені, што не знаходзіш сэнсавых акцэнтаў, узнёсласць музыкі (вось тут найбольшая ўдача), маляўнічая гераічная атрыбутыка, дарэчы, самаігральная (коп'і, мячы, ваярскі беларускі сцяг, медальён-сімвал зубра ў глыбіні сцэны, драўляны памост як эпіцэнтр падзеяў) — усё скіроўваецца на выяўленне таго, што Гегель называў «цэласнасцю свету», што і лічым мы сутнасцю эпасу, але забываем, што ў гэтай «цэласнасці» яшчэ мусіць адбывацца «індывідуальнае дзеянне». Вось тут, на мой погляд, пачынаюцца мінусы спектакля.



Агульны малюнак стану свету з яго растрывожанай інтанацыяй, драматызмам і трагізмам, парушанай гармоніяй, адасобленасцю ад ідэалу даецца ўразліва. Але намаляваны ён і агучаны адразу на ўзроўні абагульненняў. Што тычыцца індывідуальнасцей, то яны пакуль што не забяспечваюць такой неабходнай у драме сувязі героя і свету. Думаецца, што рэжысёр і акцёры не знайшлі той тонкай мяжы, дзе жывы чалавек становіцца знакам, і наадварот. І Ягайла (Аляксандр Курловіч), і Вітаўт (Юры Вутта), і Блазен (М.Пятроў), і Біскуп (Віктар Лебедзеў) здзяйсняюць свае ўчынкі толькі паводле іх гістарычнага прадвызначэння ці, горш таго, літаратурнага. Яны з агульнага малюнка выводзяцца на першы, буйны план, але адводзіцца ім роля хіба што вешчуноў ідэй. Індывідуальныя характарыстыкі персанажаў існуюць на ўзроўні акцёрскай фактуры. Ды і ў цэлым у спектаклі агульная пафасная інтанацыя такая магутная, што яе ні спыніць, ні апусціць нават на момант немагчыма. Адсюль — дэкламацыя і нават крык. Губляюць сэнс сваіх рэплік і маналогаў артысты, а мы, гледачы, — сэнс паэтычнага, філасофскага слова.

Але што ні кажы, а ў цэлым яскравае відовішча ідзе на сцэне мінскага Тэатра юнага гледача, які таксама хоча, каб і яго голас пачулі ў агульным хоры людзей, што сродкамі мастацтва спрабуюць дастукацца да свядомасці нацыі, якая ніяк не прачнецца, каб зразумець праз урокі і мудрасць гісторыі, і драматызм (а мо ўжо і трагізм) свайго сучаснага існавання.

*«Пыха манархаў і злосць надзвычай*
*далёка заходзяць,*
*Сэрцы жалезныя іх лютасцю ярай*
*кіпяць.*
*Не заўважае булат, якая вісіць*
*небяспека*
*І ў заняпадзе якім стан паспалітых*
*зямель».*

Ці не станецца так, што застанецца нам адно толькі, як героям спектакля «Песня пра зубра», з плачам звярнуцца па абарону да Прачыстай Дзевы Марыі?

**Вячаслаў РАКІЦКІ.**

P.S. На грамадскі прагляд і прэм'еру ў ТЮГ завітаў увесь «бамонд» сталіцы — міністры, журналісты, пісьменнікі, рэжысёры, мастакі, крытыкі. Ля ўваходу гасцей ветліва сустракаў імпазантны аўтар у смокінгу і з «мушкай». Але на гэтым культура тэатра і завяршалася, бо «раз у вякі» завітаўшую сюды такую публіку забыліся забяспечыць інфармацыяй-праграмкай. Вось і гуляе па старонках газет няправільная інфармацыя адносна аўтарства спектакля. Мне таксама не хапіла поціску «аўтаравай рукі», каб быць дакладна ўпэўненым, хто каго іграе. Добра, што пакуль Дударава з Дзялендзікам не блытаю.

**В.Р.**

**На здымках:**
**сцэны са спектакля.**
**Фота І. ГУДЗІЕЎСКАЙ.**

# У ГІСТОРЫІ НЯМА ЛІШНІХ ФАКТАЎ

ТВОРЧАЯ КУХНЯ

***Гісторык — гэта не толькі вартавы нашай памяці. Гэта яшчэ чалавек, які суправаджае нас у блуканнях па лабірынце мінулага часу, каб дапамагчы нам знайсці найбліжні шлях да паразумення з уласнымі продкамі. Спасціжэнне гісторыі — карпатлівая і, часам, рызыкоўная праца, інтэлектуальная прыгода на мяжы навукі і мастацтва. Аб гэтым наш карэспандэнт Юрась Барысевіч гутарыць з прафесарам Беларускага універсітэта культуры, сталым аўтарам нашай газеты Анатолем ГРЫЦКЕВІЧАМ.***

*— Анатоль Пятровіч, як сталася, што абодва браты Грыцкевічы прысвяцілі сваё жыццё гістарычнай навуцы?*

— Цяжка сказаць. Калі мы яшчэ хлопчыкамі жылі ў даваенным Менску,нас чамусьці ўжо цікавіла гісторыя. Я нарадзіўся ў 1929 годзе і напачатку хадзіў у беларускую школу; Валянцін на чатыры гады маладзейшы за мяне, ён вучыўся ўжо па-расейску. Падчас вайны мы з братам былі ў дзіцячым доме, бо бацька (настаўнік і дырэктар школы) пайшоў на фронт і там загінуў. Маці таксама была на фронце — ваенным лекарам (хірургам). Хіба гэта паўплывала на тое, што абодва мы потым пайшлі вучыцца ў медыцынскі інстытут. Брат нават абараніў кандыдацкую дысертацыю пра гісторыю медыцыны на Беларусі ў феадальны перыяд. Я скончыў завочна гістфак БДУ, і мяне амаль адразу запрасілі на працу ў Акадэмію навук. Мая кандыдацкая была прысвечана феадальнаму перыяду Слуцка, а доктарская — магнацкім гарадам Беларусі наогул.

Здаецца, я першы пачаў пісаць пра ваенныя дачыненні гараджан, гарадскія ўмацаванні (потым гэтую тэму распрацоўваў таленавіты гісторык, нябожчык Міхась Ткачоў). Займаўся я і гісторыяй апошняй грамадзянскай вайны, постаццю Булак-Балаховіча і Слуцкім паўстаннем. Праўда, калі з'ездзіў у Лондан і пазнаёміўся з эмігранцкай літаратурай, дык давялося ўсё гэта перапісаць. Працаваў шаснаццаць гадоў у Акадэміі навук, а потым быў запрошаны ў тагачасны Інстытут культуры загадчыкам кафедры. Тут ідэалагічнага нагляду і «цэнзараў мыслення» было менш, і ў гэтым сэнсе я адчуў сябе больш вольным, але педагагічная праца, папраўдзе, займае амаль увесь час.

Што датычыць брата — ён таксама скончыў гістфак, але застаўся лекарам. Напрыканцы 60-х ён пераехаў у Пецярбург (па сямейных абставінах) і неўзабаве быў запрошаны на працу ў Музей гісторыі вайсковай медыцыны, а потым і ў Пецярбургскую акадэмію культуры на кафедру музеязнаўства. Валянцін шмат увагі надае тэорыі гісторыі і зрабіў вельмі цікавыя даследаванні па ёй, яшчэ не асэнсаваныя, на жаль, належным чынам на Беларусі. Мне здаецца, мы неяк уплываем адзін на аднаго: часам чытаю ягоны твор і бачу — вось гэта і мае думкі, а ён знаходзіць такое ж падабенства ў мяне. Нашыя разважанні па-брацку ідуць у адным накірунку. Некалькі надрукаваных кніг ёсць у мяне і некалькі ў брата, шмат артыкулаў: у мяне — больш за 600, калі ўлічваць напісаныя для энцыклапедычных выданняў. Калі надарыцца вольная хвіліна — дык я стараюся пісаць, але часу ўсё адно не стае, каб паспець зрабіць усе артыкулы, якія паабяцаў.

*— Журналісты, на жаль, маюць такую ж праблему... Якім чынам Вы здолелі сфармавацца як гісторык нацыянальны ва ўмовах манаполіі на ісціну, якая прыналежала марксісцка-русафільскай школе?*

— Сапраўды, нас прымушалі вучыцца і працаваць па канонах гістарычнай школы, якая склалася ў 40 — 50-х гадах. Але шматлікі архіўны матэрыял, помнікі культуры, навуковы аналіз літаратуры, а галоўнае — асабісты роздум паказвалі, што ва універсітэце выкладаюць і ў акадэміі даследуюць «не тую» гісторыю. Нас вучылі, што трэба браць факты, якія адпавядаюць вашай (зразумела, марксісцка-ленінскай) канцэпцыі, і працаваць з імі, а тыя факты, што ёй не адпавядаюць, — адкідаць. Гісторыя скажалася бессаромна. Кожная публікацыя павінна была прайсці цераз сіта навуковых рэдактараў, якія пакідалі толькі ўзгодненыя з палітыкай партыі факты і каментары да іх. Але, часам, гэтыя пільныя вочы ўдавалася абмінуць. Напрыклад, я памятаю, дваццаць гадоў таму надрукаваў у «Вестках Акадэміі Навук» невялікі артыкул «Рэлігійная палітыка царызму перад падзеламі Рэчы Паспалітай», дзе паказаў і агрэсію Расеі на Беларусі, і выкарыстанне ёю для сваіх мэтаў праваслаўнай царквы і праваслаўнай шляхты, а потым — адкідванне і той, і другой, калі яны выканалі сваю ролю. Я сам здзіўляўся, чаму гэта надрукавалі: напэўна, проста недагледзелі. А артыкул быў заўважаны, у БДУ імя Леніна абурыліся: як гэта можна пісаць, што беларускі народ не быў прыгнечаны рэлігійна? Але што ж гэта за прыгнёт такі, калі праваслаўных было толькі шэсць з паловай працэнтаў? Дапамагло тое, што я спасылаўся на працы Маркса і Энгельса, дзе казалася аб захопніцкай палітыцы Расеі: рэдактар вырашыў, што калі ёсць цытаты «класікаў» — значыцца, можна друкаваць. І такіх прыкладаў было шмат. Калі хочаце ведаць, я быў вымушаны пайсці на педагагічную працу, бо манаграфіі мае не друкаваліся, артыкулы прабіваліся з боем і доктарскую дысертацыю я не мог абараніць: не бралі «ў чаргу». Доктарскую я абараняў «за мяжой» — у Вільні: цяпер я, так бы мовіць, lietùvas dãktaras.

*— Ці не падаецца Вам зрэдчас, як медыку па першай адукацыі, што даследаванне гісторыі мае штосьці агульнае з работай, напрыклад, патолагаанатама?*

— Мне цяжка пагадзіцца з такім параўнаннем. Для мяне гісторыя ўсё ж такі — не труп, а жыццё. Нават калі чытаеш бяскроўныя, здавалася б, дакументы — судовыя, фінансавыя, — адчуваеш, як адтуль б'е «водар жыцця» той ці іншай эпохі. Уяўленне можа разгарнуць кожны сказ у цэлую эпапею. Калі я акунаюся ў факты гісторыі, мне часам здаецца, што я там прысутнічаю, але маю права ўцячы ў цяперашчыну.

*— Ва ўсялякім выпадку, Вы не адчуваеце сябе скульптарам, які бярэ кавалак мармуру (або часу) і «адсякае ўсё лішняе», каб засталася толькі патрэбная фігура? Калі гісторыя — гэта штосьці жывое, ці стараецеся Вы захаваць і паказаць яе цалкам, без «рэпрэсій» да нязручных Вам фактаў?*

— Рэч тут — у метадыцы працы. У гісторыі няма лішніх фактаў. Але гісторык, калі ён збірае архіўны матэрыял, навуковыя працы і літаратурныя творы па сваёй тэматыцы, то мусіць вырашаць для сябе: вось гэта вызначае гістарычны працэс, а астатняе з'яўляецца толькі фонам для яго. Даследчык павінен усвядоміць сваю задачу, межы сваіх інтарэсаў і прасачыць разгортванне падзеяў у гэтых рамках, бо ахапіць усё — проста немагчыма. У пэўнай ступені гэта можна параўнаць з работай скульптара, але тут няма мёртвага матэрыялу. Тут усё жывое, але трэба браць галоўнае: тое, што можна абагульніць. Ну і, перш за ўсё, гісторыку (я звяртаюся да маладых) не трэба хапаць усё запар у пошуках сенсацыі. Бо асэнсаванне якойсьці вядомай падзеі для навукі можа быць больш вартасным, чым якое-небудь сенсацыйнае «адкрыццё». Трэба шукаць асноўныя, глыбінныя працэсы гістарычнага развіцця і, безумоўна, зыходзіць пры гэтым з пункту гледжання свайго народа, сваёй гісторыі.

Шмат каму яшчэ трэба пазбавіцца імперскай закамплексаванасці. Я памятаю, нам раней казалі: вы не маеце права пісаць так, як дазваляюць сабе некаторыя пісаць у Маскве. Што ж гэта за гісторыя? Гісторыя павінна быць адна. Я ведаю супрацоўнікаў Інстытута гісторыі, для якіх рабочай мовай пасюль з'яўляецца расейская. Яны мысляць і пішуць па-расейску, а значыцца — пішуць для Расеі, а не для свайго народа.

*— Але, наколькі я разумею, сучасныя гісторыкі на Захадзе (Брадэль, Ар'ес, Ле Гоф ды інш.) аддаюць перавагу даследаванням ужо не палітычнай або нацыянальнай гісторыі, а эвалюцыі прыватнага жыцця. Ці не наспеў час і нашым навукоўцам змясціць у цэнтр даследаванняў не палітычных дзеячаў і герояў, а лёс і светапогляд звычайнага чалавека пэўнай эпохі?*

— Гэта сапраўды так. На Захадзе ідуць даследаванні палітычных і грамадскіх інстытутаў (напрыклад, дэмакратыі), гісторыі культуры, адносінаў паміж асобай і дзяржавай. У нас да гэтага пакуль не прыйшлі. Праўда, я мушу сказаць, значная частка беларускіх гісторыкаў усё ж такі добра ведае факты і «ландшафт» той ці іншай падзеі, бо нас вучылі і цяпер патрабуюць агульнымі словамі не гаварыць. Часам пералік фактаў пераважае над разважаннямі і высновамі. Так што перад гісторыкамі стаіць вялікая задача: асэнсаваць гісторыю Беларусі з дзяржаўнага і



нацыянальнага гледзішча, а ўжо потым пераходзіць да «індывідуалізацыі» гістарычнага працэсу, але без павярхоўнасці і, зноў кажу, без сенсацый. Бо часам за сенсацыяй мы ўжо не бачым галоўнага.

*— Дык сенсацыі бываюць не толькі ў журналістаў, але і ў гісторыкаў? Не толькі ў цяперашнім, але і ў мінулым часе?*

— Я так мяркую, журналіст апісвае тое, што з'яўляецца актуальным сёння, гісторык жа павінен шукаць факты і высновы, якія будуць актуальныя і заўтра, і паслязаўтра, хаця яны апавядаюць пра даўнюю мінуўшчыну. Так што тут разыходжанне ёсць — так сама, як і з літаратарам. Пісьменнік можа прыдумляць сітуацыі, новых гістарычных персанажаў, але скажаць агульны накірунак гісторыі ён не мае права, бо гэта ўжо будзе, так бы мовіць, гістарычнай фантастыкай і скажэннем праўды.

*— Але ж існуюць розныя навуковыя школы і падыходы. Скульптары таксама бяруць адзін і той жа матэрыял, але скульптуры (гісторыі) у іх атрымліваюцца далёка не аднолькавыя. Дык ці існуе яна — гістарычная праўда?*

— Што атрымаецца ў гісторыка — залежыць ад ягонай індывідуальнасці, агульнай культуры, адукаванасці, нават ад ведання моваў. Калі навуковец ведае толькі «русский язык» і больш нічога — ён далёка не пойдзе. Ёсць, праўда, і такія гісторыкі, якім і па-расейску цяжка сказаць, што яны думаюць, але спавешчанні на канферэнцыях спрабуюць чытаць па-беларуску — такіх проста сорамна слухаць.

*— Ці ёсць у Вас упэўненасць, што калі б тыя людзі, якія жылі ў той час, пра які Вы пішаце, атрымалі нейкім фантастычным чынам і прачыталі гэтую кнігу ці артыкул, то яны б пагадзіліся з Вашым бачаннем падзеяў? Калі б адзін з каралёў, пра якіх Вы пісалі, атрымаў газету «Культура» з Вашым артыкулам, ці пазнаў бы ён сябе?*

— Ведаеце, можа, і не пазнаў бы — з-за таго, што ў мінулыя часы людзі думалі не так, як мы. Але, усё ж такі, калі я пішу, стараюся паказаць не проста гістарычную постаць, а чалавека, ягоныя слабасці, сямейнае жыццё. Напрыклад, Жыгімонтам-Аўгустам фактычна кіравалі жанчыны. Ян Сабескі кахаў усё жыццё адну жанчыну і яна (француженка) вельмі моцна ўплывала на яго, але ён усё ж здолеў бараніць дзяржаўныя справы ад гэтага ўплыву. Так што я намагаюся, калі пішу пра пэўную фігуру, хоць адным-двума мазкамі надаць ёй чалавечнасці — каб той жа кароль, калі б яму трапіў гэты артыкул, усё ж такі мог бы сказаць: хіба — гэта я.

*— Чалавек і на магнітафоннай стужцы не заўжды пазнае ўласны голас, а не толькі ў артыкулах пра сябе. Дарэчы, нашы маладыя гісторыкі (Сагановіч, Грыгор'еў ды інш.) адпрэчваюць паэтычны або метафізічны падыход да гісторыі, абмяжоўваюцца сухім пералікам падзеяў або археалагічных знаходак. Наколькі можа быць такі падыход плённым?*

— Увогуле, ён ідзе на карысць навукі, бо падымаецца шмат новых фактаў, якія або замоўчваліся, або былі зусім невядомыя. Сагановіча я вельмі паважаю як сур'ёзнага гісторыка, хаця і не ва ўсім пагаджаюся з ім. Напрыклад, ён галоўным віноўнікам заняпаду Рэчы Паспалітай лічыць шляхту. А раней увогуле лічылася, што сапраўднымі патрыётамі былі толькі сяляне.

*— Ці можна вызваліць даследаванне гісторыі ад ідэалогіі і асабістых прыхільнасцяў?*

— Гісторык павінен ад гэтага вызваляцца. Нельга замоўчваць памылкі нашых гістарычных дзеячаў і некарысныя для нацыянальнай ідэі з'явы. Вось Вам прыклад: войны з Масковіяй. Цяпер у нас людзі ведаюць, што маскоўскае войска прыходзіла рабаваць і знішчаць. Але ж і беларуска-літоўскае войска таксама хадзіла на ўсход і рабіла амаль тое ж самае. Вядома, што ў XVI стагоддзі быў перыяд, калі паміж Оршай і Смаленскам ніводнага населенага пункта не было, усё было знішчана. Нідзе не кажацца, як у пачатку XVII стагоддзя ўкраінскія казакі рабавалі Беларусь. А сялянскія паўстанні?

Раней трэба было паказваць, перадусім, класавую барацьбу, прычым так, якой была яна ў «старэйшага брата»: там Сценька Разін і Пугачоў, а чаму ў нас няма? І вось у 1989 годзе ЦК КПБ выдае пастанову паставіць помнік Васілю Вашчыле. І нашыя гісторыкі за апошнія гады, на жаль, зрабілі яго героем: беларускі Пугачоў! А там, на Крычаўшчыне ці Мсціслаўшчыне, сяляне нават цяпер вашчыламі называюць забойцаў, рабаўнікоў і гвалтаўнікоў: такі след ён пакінуў у народнай свядомасці, і дакументы кажуць аб тым жа, але ЦК патрэбныя былі героі класавай барацьбы. Між іншым, Вашчыле давалі ў аддзелы сваіх узброеных сялян магнаты Цеханавецкія: каб Крычаўскае староства не дасталося Радзівілу. Гэта была барацьба не супраць, а за права эксплуатацыі сялянаў.

*(Заканчэнне на стар.7)*

# УСМЕШКА МАЙСТРА



## Згадкі пра адну оперу

Адлегласць, чым яна большая, тым болей насычаюць яе багі — дэміургі нябёсаў, зямлі і гісторыі духам таемнага. Так узнікае легенда. Я хацеў бы пазбегнуць, унікнуць гэтага слова, але так яно ёсць: Анатоль Багатыроў — жывая легенда беларускае музыкі.

Я не маю за мэту падрабязны пералік усіх тытулаў Маэстра, а пакуль што хачу толькі паспрабаваць угледзецца праз адлегласць у той час, калі падзеі складаліся ў легенду.

— Праца над операй «У пушчах Палесся», яе пастаноўка, сам працэс яе напісання і сцэнічнага ўвасаблення былі вельмі цікавымі, — летуценна прызнаецца творца. — Гэта, відаць, самы вялікі ўспамін майго жыцця. Тады, у 1936 — 1937 гадах, я быў яшчэ студэнтам апошняга курса кансерваторыі. Я прачытаў аповесць Якуба Коласа «Дрыгва», яна мяне вельмі ўразіла. І я вырашыў пісаць оперу!

Але тут жа паўстала праблема з лібрэта. Што рабіць? Я падумаў і пайшоў да самога Якуба Коласа ў Акадэмію навук. Колас мяне добра прыняў, і я спытаўся ў яго, ці можа ён быць маім лібрэтыстам. Ён сказаў: «Бачыш, я не спецыяліст, але я зараз пазваню». Пазваніў ён Яўгену Сцяпанавічу Рамановічу, драматургу, і той згадзіўся. Гэта было ўзімку 1936 года, і да заканчэння кансерваторыі ўлетку 1937 года я ўжо меў лібрэта.

Зрэшты, Якуб Колас увесь час трымаў з намі сувязь, а летам таго ж года мы з Я.Рамановічам паехалі да яго на дачу ў Пухавічы, каб узгадніць праўкі, змены, зробленыя ў лібрэта. Я.Колас даў на іх згоду, і 18 жніўня, ужо ў Віцебску, у бацькоў, я пачаў пісаць. Я напісаў уступ і харавыя партыі. Першы акт таксама напісаны вельмі хутка — у верасні ўжо было яго праслухоўванне ў Оперным тэатры. Усім так спадабалася ўжо напісанае, быў такі агульны энтузіязм, такое захапленне! Я павінен быў працаваць далей: маўляў, такая опера атрымаецца!

Анатоль Васілевіч раптам змаўкае, заглыбляецца ва ўспаміны і потым вельмі лаканічна дадае:

— Опера была скончана ў першай палове 1938 года, а 28 жніўня 1939 года адбылася яе прэм'ера.

Можа, і сапраўды гэта немагчыма? Немагчыма перадаць і аднавіць тое, што адбылося ўжо аднойчы і назаўсёды сталася Падзеяй, непаўторнай і незабыўнай. І тым больш для яго, аўтара, які цалкам аддаўся творчасці.

Яму было тады дваццаць шэсць гадоў. Ён ужо скончыў у Віцебску музычную школу па класе фартэпіяна, Мінскі музычны тэхнікум па класе кампазіцыі Мікалая Аладава — майстра, які на ўсё жыццё застанецца для А.Багатырова вялікім настаўнікам — дарадцам, якому будуць давярацца ўсе задумы і сумненні, — два гады, як скончыў Беларускую дзяржаўную кансерваторыю. І вось — ёсць аўтар і яго выбітны твор: опера «У пушчах Палесся».

— Летам 1938 года, — працягвае кампазітар, — у Маскве ўдалося паказаць урыўкі з оперы. Помню, выклікаюць мяне ў тэатр У.Неміровіча-Данчанкі. Ён у сябе дома наладжвае праслухоўванне, са мной заключаюць дамову і замаўляюць пераклад на рускую мову.

Пасля, як опера адгучала на сцэне адзін сезон, у 1940 годзе я зрабіў яшчэ адну яе рэдакцыю: напісаў новую, чацвёртую, карціну і зрабіў новую аркестроўку. У такім выглядзе яна была паказана на Дэкадзе беларускага мастацтва ў Маскве ў чэрвені 1940 года. На спектаклі быў увесь урад на чале са Сталіным. Ён пасля выклікаў мяне ў ложу і гаварыў са мной і маёй жонкай паўтары гадзіны: такое вялікае ўражанне зрабіла на яго опера. Пасля гэтай размовы мяне ніхто не смеў крануць...

З вясёлай усмешкай, удаючы каўказскую манеру гаворкі «бацькі народаў», Анатоль Васілевіч дэкламуе:

— Вот чэлавэк пішэт правільную музыку. А почэму нашы, масквічы, нэ могут так пісаць? Пішют сумбур вмэсто музыкі...

Імя Сталіна пераводзіць успаміны на іншую плынь, ён, сведка сталінскіх часоў, зазначае:

— Сталін быў хворы чалавек, вар'ят. Падумаць толькі: мільёны чалавек — ворагі народа. Але ён быў і добрым вучнем Леніна: і той атрымліваў асалоду ад падобнага, — і, удаючы цяпер ужо картавую манеру «правадыра рэвалюцыі», майстра зноўку дэкламуе: — Иосиф Виссарионович, вы уже три дня в Екатеринбурге, и ни одного человека ещё не расстреляли...

Нармальны чалавек не можа быць такім, якімі былі гэтыя правадыры...

Так, гісторыя — гэта не толькі легенда, але і драма, трагедыя, якую нават багі-дэміургі, не здольныя замгліць адлегласцю па часе. А час яму, Анатолю Багатырову выпаў драматычны. Здзіўляе іншае: да падзей, якія маглі калісьці каштаваць яму жыцця, васьмідзесяцігадовы майстра, які на тыя часы быў і старшынёй праўлення Саюза кампазітараў Беларусі, і ўзначальваў Беларускую дзяржаўную кансерваторыю (1948 — 1956), ставіцца як да вясёлага выпадку і пераказвае як анекдот.

Пастановай СНК СССР N611 ад 4 мая 1939 года, падпісанай В.Молатавым і І.Бальшаковым, ствараецца аргкамітэт па арганізацыі Саюза савецкіх кампазітараў, мэтай якога Сталін вызначае напісанне класічнай савецкай оперы. У аргкамітэт быў уключаны таксама А.Багатыроў. Праходзіць дзевяць гадоў — і 10 лютага 1948 года ставіцца «класічная савецкая опера»: «Вялікая дружба» І.Мурадэлі.

— Сталін толькі адзін акт праслухаў і ў гневе пайшоў, — гаворыць А.Багатыроў. — А потым з'яўляецца пастанова, у якой былі пералічаны ўсе нашыя прозвішчы і сказана: «Как не справившихся по руководству советской музыкой — распустить!» Подпіс — І.Сталін.

Ён зноў весела пасміхаецца (маўляў: не справіліся, не стварылі), але ведае, як кожны з іх тады чакаў арышту. І арышты былі.

За адмову падпісаць спісы на арышт кампазітараў — «ворагаў народа» — тая ж пагроза, але пакуль А.Багатыроў узначальвае Саюз кампазітараў, ён адмаўляецца (чаго не скажаш пра кіраўнікоў Саюза пісьменнікаў).

Страшна і смешна, але няма сумненняў, што гэты смех — усмешка Мастака, калі драматызм жыцця і эпохі з вялікаю пераканаўчаю сілай выкладаецца драматычным канфліктам музычных тэмаў у вынашаных творах (опера «Надзея Дурава», кантаты «Ленінградцы», «Партызаны», «Беларусь»), а для штодзённасці застаецца добразычлівасць і такая ж усмешка.

— Я прызнаю мастацтва тады, калі яно мяне вельмі ўражвае, калі хаджу два тыдні пасля гэтага як звар'яцелы. Я вельмі люблю ўсё эмацыйнае ў мастацтве. Мне менш падабаецца, калі адсюль, — майстра кранаецца пальцамі ілба, — а больш — калі ад сэрца.

Эмацыйнасць і сугучнасць прынцыпам сваёй творчасці Анатоль Багатыроў знаходзіць у паэзіі Аркадзя Куляшова, якога лічыць другім паэтам пасля Янкі Купалы і на вершы якога, а таксама на вершы Н.Гілевіча і Г.Бураўкіна, у 1986 годзе ім была пастаўлена ў Гомелі саракахвілінная араторыя «Бітва за Беларусь», якую ў сваю чаргу аўтар лічыць сваім лепшым творам. 31 кастрычніка 1993 года яна выконвалася пяты раз, і зноў пры перапоўненай зале.

Відаць, згадка пра гэты незвычайны поспех закранае ягоную душу, і Анатоль Васілевіч пасля нядоўгага летуценнага задумення прызнаецца:

— Я хацеў бы напісаць оперу паводле раманаў І.Мележа пра калектывізацыю. Але пакуль што я не адчуваю гэткай магчымасці — няма лібрэтыста. Я б, канешне, па-свойму ўгледзеўся ў гэты твор. Я б узмацніў трагедыю. І оперу я хацеў бы назваць «Ганна». Калі я змог напісаць такую вялізную рэч, як «Бітва за Беларусь», дык мне здаецца, я мог бы напісаць і гэтую оперу, — ён усміхаецца. І гэтая ўсмешка — ужо інакшая.

**Андрэй ГУЦАЎ.**

# У ГІСТОРЫІ НЯМА ЛІШНІХ ФАКТАЎ

*( Пачатак на стар. 5)*

Потым, нічога не пішуць пра антысеміцкі характар паўстання. На Беларусі, калі не лічыць наездаў украінскіх казакоў, гэбрайскіх пагромаў не было да Вашчылы. І самае цікавае, аб чым ніхто не піша, — Вашчыла ўвесь час меў зносіны з начальнікам расейскай, так бы мовіць, пагранзаставы і таму потым здолеў уцячы ў Расею.

*— І што, помнік яму паставілі?*

— Не, не паспелі. Але пісаць — распісалі пра яго: ужо тры ці чатыры кніжкі выйшла пра «народнага героя». У свой час я напісаў тое, што Вам кажу, у артыкуле для пяцітомнай «Гісторыі Беларусі», але яго выкінулі і папрасілі напісаць «як трэба» іншага аўтара.

Дык вось, я кажу гэта наконт таго, што раней былі адны міфы, а цяпер ствараюць або працягваюць да нас новыя. Я супраць міфалогіі ў гісторыі: гісторыя павінна быць навукай, прычым — такой жа дакладнай, як матэматыка. Няхай гэта гучыць парадаксальна, але я мяркую так, бо дзвюх гісторый быць не можа.

*— Як вядома, Вы з'яўляецеся таксама старшынёй Згуртавання беларускай шляхты. Ці можаце Вы пагадзіцца, што ў сучасных умовах ролю шляхты, якая бараніла незалежнасць дзяржавы, прынялі на сябе ўсе нацыянальна свядомыя людзі незалежна ад іхняга паходжання?*

— Згуртаванне беларускай шляхты — гэта патрыятычна-культурнае аб'яднанне нашчадкаў людзей вайсковага саслоўя, якое на Беларусі было даволі шматлікім: 10 — 12 працэнтаў насельніцтва (у Расеі дваранства складала толькі 1 працэнт). Нашае аб'яднанне мае гісторыка-генеалагічны, геральдычны накірунак. Адзін-два разы на месяц праходзяць заняткі ў Шляхецкім універсітэце культуры. Што датычыцца асабістага складу — у асноўным гэта нашчадкі дробнай шляхты, частку якой расейскія ўлады перавялі ў дзяржаўныя сяляне. Нам трэба адраджаць усю культуру Беларусі: не толькі сялянскую, але і гарадскую, і шляхецкую. Баяры, выбранцы, зямяне, панцырныя слугі — так звалі тых, хто бараніў дзяржаву. Селянін пад Грунвальд не хадзіў: у яго не хапіла б грошай на зброю і даспехі. Але зямлі не хапала і, з цягам часу, шляхта пачала сяліцца ваколіцамі, жаўнерскімі вёскамі і нават паміж сялянамі. А іхнія нашчадкі сталіся калгаснікамі. Я лічу, кожны чалавек павінен ведаць сваіх продкаў. Я, напрыклад, ведаю свой радавод да XVII стагоддзя і нават далей. Здаецца, першы ў Савецкім Саюзе я надрукаваў радаводны артыкул пра ўласных продкаў (у часопісе «Советское славяноведение»). Калі пісаў яго — не мог пазбыцца адчування, што апавядаю пра сябе самога, што сам існую ў мінулых стагоддзях. І яшчэ здзіўляўся, што здольны пісаць пра сваіх продкаў з халодным сэрцам, як навуковец-прафесіянал.

Кожны з нас — адзінка, але нас шмат, мільёны, і ўсе мы — адзіны народ. І трэба паважаць тых, хто жыў перад намі, хто раней за нас быў беларускім народам.

*— Які лад лепш спрыяў бы адраджэнню беларушчыны: рэспубліка альбо канстытуцыйная манархія?*

— Калі звярнуцца да гісторыі, дык мы ўбачым, што ў былой Рэчы Паспалітай дзяржаўны лад быў рэспубліканскі: кароль і вялікі князь абіраўся пажыццёва, але ягоная ўлада не перавышала прэзідэнцкую. І тэарэтычна гэта добра, але практычна прыводзіла заўсёды да ўмяшання ў нашыя ўнутраныя справы розных дзяржаваў. У паездках па свеце я пераканаўся, што канстытуцыйная манархія, нягледзячы на некаторую пампезнасць і дэкаратыўнасць, мае свае перавагі: няма бясконцай барацьбы за вышэйшую пасаду ў дзяржаве. Аднак у нас на Беларусі ідэя канстытуцыйнай манархіі наўрад ці можа перамагчы. У Вялікім княстве мы мелі рэспубліканскі лад, калі ж далучыліся да Расеі — атрымалі самадзяржаўе, дыктатуру (да якой і прызвычаены расейскі народ, хай ён прабачыць мне). Потым — 70 гадоў бальшавіцкай улады, якая кожнаму намагалася давесці, што мы жывем у рэспубліцы, што кіруюць дзяржавай усе людзі на чале з кухаркай (як яна кіруе, мы ўжо даведаліся). Цяпер у Расеі мы назіраем бясконцую і часам крывавую барацьбу паміж прэзідэнтам і парламентам. А ў Бельгіі, як мы ведаем, канстытуцыйная манархія дазваляе захаваць адзінства нацыі. Так што асабіста я — прыхільнік такой формы дзяржаўнасці, але не бачу для яе рэальных перспектываў на Беларусі.

*— І апошняе пытанне: ці можаце Вы пагадзіцца з Сяргеем Дубаўцом, калі ён кажа, што «гісторыя краіны часта бывае смешная; заўсёды сур'ёзная толькі імітацыя гэтай гісторыі»?*

— Сяргей Дубавец — чалавек вельмі крытычны. Мне ён падабаецца як чалавек і як літаратар. Ягоная крытыка гістарычнай навукі і палітычнай практыкі мае падставы, але цалкам іх адкідваць за тое, што яны занадта сур'ёзныя, было б несур'ёзна. Гісторыя ёсць гісторыяй, нават калі мы яе не разумеем. Дзвюх гісторый — смешнай і сур'ёзнай — быць не можа. Смешнымі або сур'ёзнымі бываюць толькі гісторыкі.

# Ад Мінска да Лодзі — два дзесяцігоддзі

Летась, у верасні, споўнілася 20 гадоў супрацоўніцтву паміж філатэлісцкімі арганізацыямі Мінска і польскага горада Лодзі.

А ўсё пачалося вельмі проста. На аб'яву, якую я змясціў у часопісе «Філатэлія СССР» на пачатку 70-х, адгукнуўся калекцыянер з Лодзі Вітольд Жураўскі. Нас абодвух цікавіла тэма другой сусветнай вайны, адлюстраваная ў філатэліі. Пасля колькіх гадоў перапіскі і ўзаемаабменаў матэрыяламі мы падумалі, што варта наладзіць больш шырокія кантакты — не на асабовым узроўні, а на ўзроўні філатэлісцкіх арганізацый нашых гарадоў. Карысць бачылася велізарная.

Амаль два гады пайшло на перамовы, выпрацоўку пагаднення, на ўзгадненне з вышэйстаячымі філатэлісцкімі арганізацыямі Польшчы і Усесаюзнага таварыства філатэлістаў. Пагадненнем прадугледжвалася правядзенне сумесных філатэлісцкіх выставаў, вывучэнне вопыту работы, абмен адпаведнай літаратурай ды шмат іншага. Калі ўсе паперы былі падрыхтаваныя і засталося толькі арганізаваць прыезд польскай дэлегацыі (а на тое патрабавалася згода партыйных і савецкіх інстанцый), у нашы філатэлісцкія справы ўмяшаліся гэтыя інстанцыі. Згодна з няпісанымі на той час правіламі, нам трэба было наладжваць сяброўскія стасункі з філатэлістамі тых замежных гарадоў, з якімі мелі сувязі партыйныя ды савецкія ўлады. Такія сувязі ў Мінска былі з Плоцкім ваяводствам. Значыць, і нам рэгламентавалася сябраваць з філатэлістамі Плоцка...

Пачаліся блуканні па кабінетах абкама, ЦК КПБ, гарсавета. Прыйшлося пісаць лісты, даказваць, спрачацца і пераконваць, бо філатэлію і філатэлістаў у гэтых арганізацыях ніхто ўсур'ёз не ўспрымаў. Як жа, нейкія аматары паштовых штэмпеляў ды марак...

Заручыліся падтрымкай Усесаюзнага таварыства філатэлістаў. Здолелі, нарэшце, пераканаць абкамаўскіх чыноўнікаў, што прыезд дэлегацыі з Лодзі адмяніць ужо нельга, і выставу таксама не адкладзеш, а галоўнае, пераканалі нашых супраціўнікаў, што філатэлісты Плоцкага ваяводства ўваходзяць у склад Лодзінскай філатэлісцкай акругі.

І толькі тады дазвол на дружбу быў дадзены. Але кожны раз, несучы ў абкам або ЦК на подпіс ці ўзгадненне дакументы аб прыёме калегаў з Лодзі, або на выезд нашай дэлегацыі ў Лодзь, або на правядзенне чарговай міжнароднай філатэлісцкай выставы, нам даводзілася зноў і зноў тлумачыць чарговаму партыйнаму або савецкаму чыноўніку, хто мы і дзеля чаго ўсё робіцца.

Цяпер, азіраючыся на пройдзены дваццацігадовы шлях дружбы і супрацоўніцтва, можна сказаць, што старанні нашы былі недарэмныя. Мы шмат чаму навучыліся ад польскіх сяброў. Нават тады, у пачатку 70-х, польская філатэлія была значна лепшая, чым савецкая, а ўлады ПНР інакш, чым у нас, ставіліся да захапленняў людзей.

За два дзесяцігоддзі нашых узаемін было праведзена некалькі міжнародных філатэлісцкіх выстаў не толькі ў Мінску і ў Лодзі, але і ў іншых гарадах, якія ўваходзяць у Лодзінскую філатэлісцкую акругу. Ужо ў 1974 годзе ў выставе «Лодзь-550» брал ўдзел чацвёра мінскіх філатэлістаў. Затым былі выставы «Лодзь-75» і «Лодзь-87», «Серадз-77», «Пабіаніцэ-80». Двойчы ўдзельнічалі філатэлісты-мінчукі ў выставах у горадзе Кутна. У 1986 годзе на выставе «Кутна-600», прысвечанай юбілею надання гораду гандлёвых правоў, было паказана шэсць мінскіх калекцый. Спецыяльны паштовы штэмпель гэтае выставы займеў назву і нашага горада.

Апошняя філатэлісцкая выстава, у якой бралі ўдзел мінскія калекцыянеры, адбылася ў тым жа Кутне ў 1989 годзе і прысвячалася 50-годдзю гераічнай абароны горада ў 1939 г.

На ўсіх выставах поспехам карысталіся нашы калекцыі «Старонкі гісторыі Беларусі», «Старыя пісьмы Беларусі», «Прырода Беларусі», «Птушкі нашай рэспублікі».

Падобныя выставы праходзілі і ў Мінску. Да дзвюх з іх поштаю СССР былі выдадзены памятныя канверты, у дні правядзення выстаў на мінскім паштамце праводзілася спецгашэнне.

За гады супрацоўніцтва акрамя філатэлісцкіх выстаў мы правялі некалькі цікавых сустрэч, дзе абмяркоўвалі вопыт работы філатэлісцкіх дарослых і дзіцячых арганізацый, наладжванне конкурсаў, выстаў, вучобу калекцыянераў. Зацікавіў вопыт нашых польскіх сяброў у выданні спецыяльнага бюлетэня. Выдаецца ён у Лодзі, на грамадскіх пачатках, а карыстаецца папулярнасцю па ўсёй Польшчы і нават за яе межамі. Пра падобнае гісторыка-даследчае выданне беларускім філатэлістам прыходзіцца пакуль што толькі марыць.

20-гадовы юбілей нашае дружбы (праўда, цяпер сціпла названай проста кантактамі) лодзінская ўправа Саюза польскіх філатэлістаў адзначыла выпускам паштовых канвертаў з малюнкамі гістарычных каталіцкіх касцёлаў у Мінску — чырвонага касцёла святых Сымона і Алены, касцёла святой панны Марыі (былы касцёл і манастыр езуітаў). На адным з канвертаў — першы герб горада Мінска, дадзены яму ў студзені 1591 года каралём Жыгімонтам III Вазай.

Усяго выдадзена 9 відаў розных канвертаў. Канверты пагашаны спецыяльным фракіраваным штэмпелем з юбілейным тэкстам: «20 гадоў кантактаў паміж філатэлістамі Лодзі і Мінска. 1973 —1993». На канвертах — выявы дзяржаўных сцягоў Польшчы і Беларусі, а таксама гербы Лодзі і Мінска. Тэкст пад малюнкам пададзены на польскай і беларускай мовах. Спраектаваў усе гэтыя выпускі, выканаў і ажыццявіў Вітольд Жураўскі, сябар управы Лодзінскага акруговага аддзялення Саюза польскіх філатэлістаў.

На жаль, у цяперашніх умовах Беларускі саюз філатэлістаў не змог гэтак жа ці іншым чынам адзначыць гэты юбілей.

Зраблю невялічкае адступленне з нагоды выпуску памятных канвертаў у Лодзі. Нам, філатэлістам Беларусі, хацелася б бачыць такія ж выпускі, ажыццёўленыя поштай нашай рэспублікі. Разумеем сённяшнія цяжкасці і ўсё ж застаемся з надзеяй, што хутка з'явяцца і ў нас канверты з цудоўнымі выявамі помнікаў беларускага дойлідства, гербамі старажытных гарадоў, выявамі знаных людзей — паэтаў, пісьменнікаў, музыкаў, мастакоў... Бо філатэлія не толькі збліжае людзей, яна ўзбагачае душу і розум.




Леў КОЛАСАЎ,
намеснік старшыні Беларускага саюза філатэлістаў.

ШТОТЫДНЁВАЯ
ГРАМАДСКА — АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
выдаецца з кастрычніка 1991года

Заснавальнік —
Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар — Вольга ШАТАВА

Нам.галоўнага рэдактара —
Людміла КРУШЫНСКАЯ

Рэдкалегія:

А. ВАНІЦКІ, В. ГЕДРОЙЦ, У. ГІЛЕП, Н. ЗАГОРСКАЯ, С. ЗАКОННІКАЎ, А. КУДРАВЕЦ, М. КУПАВА, В. РАКІЦКІ, В. СКВАРЦОЎ, К. ТАРАСАЎ, А. ТРУСАЎ, В. ТУРАЎ, В. ШАРАНГОВІЧ.

Адказны сакратар — Андрэй ВАШКЕВІЧ
Мастацкі рэдактар — Наталля ОВАД, Барыс ШУЛЬМАН
Карэктар — Мая КЛІМКОВІЧ
Набор і вёрстка кампутарнага цэнтра газеты «Культура»

Адрас рэдакцыі:
220050, МІНСК (МЕНСК),
вул.КІРАВА, 25, кв. 12.

Тэлефон: 27-83-18
Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.

Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.

Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.



Фармат А3.

Індэкс 63875
Агульны наклад 13500
Замова 50
Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом Друку».

М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.

Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.